# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 33 (1735) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 13 ЖНІЎНЯ 1989 г. ЦАНА 40 зл.




Люба Гаўрылюк паказвае нам вышыўку, якую навучылася рабіць на вышывальнай машыне.

Вяртаемся да народнага

## БЕЛАСТАЧЧАНКІ Ў МІНСКУ

Каляровая беларуская вышыўка — чырвоныя кветкі ў чорным абрамленні, блакітныя васількі, бела-жоўтыя рамонкі з жытнёвымі каласкамі ў зялёным прыбранні — гэта пах родных палёў, гэта памяць па дзедах і прадзедах нашых, вынесеная з бацькоўскага беларускага дома.

Гэтыя яркія акрушынкі блізкай сэрцу прыроды, перанесенай на льняное палатно, знойдуцца амаль у кожнай сучаснай хаце беларусаў. І там, дзе маладая вясковая гаспадыня ад маці атрымала ў спадчыне куфэрак вышыванага палатна, а ў прыдачу — любоў да прыгажосці ды залатыя рукі. Як і там, дзе гарадская адукаваная маладуха, верачы ў магічную сілу вышыванага ручніка, карпатліва перахоўвае ў сваёй гарадской шафе ўзорыстыя палотны як сямейную рэліквію.

Не кожная з нас мае талент ствараць шэдэўры народнай творчасці. Але нямала ёсць здольных жанчын, якім праца з іголкай ці на кроснах дае сапраўдную прыемнасць, радасць стварэння нечага свайго ўласнага, непаўторнага.

Калі ж на Беласточчыне голасна расспяваліся беларускія хоры, калі перастала людзям хапаць той далікатнай прыгажосці ўбораў з бабчынага куфэрка (сцэна кіруецца сваімі правіламі), востра ўстала пытанне аб адзенні для нашых калектываў. Некаторым прабавала памагчы Таварыства, але ў большасці людзі здаліся на ўласныя сілы. Гарадоцкія жанчыны вышывалі сабе блузкі пад кіраўніцтвам Ніны Мушынскай, „Васілёчкі" заказвалі свае багатыя кашулі і блузкі ў Ядвігі Бармуты з Беластока, гайнаўскі хор звяртаўся за дапамогай да гайнаўянкі Марыі Ажахоўскай, калектыву „Дубіны" (гэта ўжо зусім нядаўна) кашулі і блузкі вышывала разам з маладымі памочніцамі Клаўдзія Прыходская. А беластоцкія „Каласкі" апранае (працэс стварэння нацыянальных убораў для калектыву тут яшчэ не закончаны) салістка калектыву Люба Гаўрылюк са сваімі дочкамі і іншымі жанчынамі.

Цяжкая і карпатлівая гэта праца — вышываць дробным крыжыкам нацыянальнае беларускае адзенне для сцэны — яно павінна быць багата расшытым і каларытным.

Добра разумеў гэта былы сакратар ГП БГКТ, а цяпер старшыня Камітэта пабудовы беларускага музея ў Гайнаўцы Кастусь Майсеня. У час адной з сустрэч прадстаўнікоў нашага таварыства з таварыствам „Радзіма" ў Мінску, калі дзеячы

(Працяг на стар. 4)

## НЕ ХАЧУ ВАЯВАЦЬ, А СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ

**(Размова з беларусам з Аўстраліі Мікалаем Ніканам)**

**— Раскажыце, калі ласка, аб галоўным у сваім жыцці.**

— Называюся Мікалай Нікан. Нарадзіўся 3.I.1908 года ў Варшаве. Бацька працаваў у царскай тамажні. Разам з бацькамі ў Варшаве пражылі мы аж да першай сусветнай вайны. Меў двух братоў і адну сястру. Сёння жыву толькі я і сястра. Мае бацькі выводзіліся з Вялікай Бераставіцы, Гродзенскай губерні. Калі пачалася вайна, бацьку мабілізавалі ў царскую армію, а маці з намі паехала ў Вялікую Бераставіцу і адтуль згодна з воляй бацькі накіравалася ў Петраград, дзе ён знаходзіўся пасля ранення на фронце.

У Петраградзе я пражыў першую і другую рэвалюцыю. Спазнаў разам з сям'ёй суматоху і голад. Нарэшце бацька вывез нас на паўночную Украіну, а сам застаўся на працы ў Петраградзе і толькі пасля далучыўся да сям'і. Я на Украіне вучыўся ў гімназіі. Пасля трапілі мы ў вір грамадзянскай вайны і хлябнулі вялікага гора.

Калі ўзнікла ў 1918 годзе Польшча і былі з ёю наладжаны адносіны, бацьку ўдалося дамагчыся права выезду на радзіму. Транспарт так быў страшэнна разладжаны, што мы з Украіны ў Бераставіцу вярталіся паўгода. Толькі пад Кіевам сталі тры месяцы. Выехалі недзе ў чэрвені, а прыехалі некалькі дзён перад калядамі.

Бацька паехаў у Варшаву з намерам атрымаць працу. Аднак працы як беларус не атрымаў і быў прымушаны працаваць на гаспадарцы. Жылося нам цяжка. Царскія папяровыя грошы, якіх бацька меў многа, страцілі вартасць, і жылі мы з горам і бядою папалам, аднак хлеб і бульбу мелі.

Я пачаў вучыцца ў польскай школе. Было цяжка, бо не ведаў мовы. Удалося аднак у 1928 годзе закончыць свісляцкую гімназію. На працу двух гадоў працаваў настаўнікам, пасля быў прызваны ў армію і накіраваны ў Познань у школу падхаружых. Закончыўшы школу, вярнуўся на Гродзеншчыну. Аднак як беларус не мог тут атрымаць настаўніцкай працы. Дзякуючы знаёмству, выехаў у цэнтральную Польшчу і тут, дзе нацыянальны фактар адыгрываў меншую ролю, чым на крэсах, пачаў настаўнічаць. Працуючы, закончыў у Варшаве вышэйшыя курсы, так званую „Вшэхніцу", якая была амаль універсітэтам. Пасля гэтага пачаў працаваць настаўнікам у школе, дырэктарам якой была жонка прэм'ера Касцялкоўская.

У 1939 годзе, як апякун гарцэраў, паехаў у Францыю, і там застала мяне вайна. Французы заахвочвалі мяне, каб я застаўся, я аднак, як паручнік запаса, хацеў ваяваць з немцамі. Мы купілі білеты ў Польшчу праз Рым, Вену і Прагу. Аднак гэты шлях аказаўся непраезны. Вярнуўся я праз Італію, Югаславію і Румынію. У Любліне быў накіраваны ў Маладзечна ў 13-ы полк пяхоты. 15 верасня даехаў у Маладзечна, а 17-га даведаўся, што Чырвоная Армія ўвайшла ў Заходнюю Беларусь. Наш полк быў накіраваны ў Вільню, а адтуль у Літву. Пайшлі аднак толькі тыя салдаты і афіцэры, якія мелі абмундзіраванне. Я быў у цывільным і таму застаўся ў Вільні. Тут бачыў уваход у горад савецкай кавалерыі. Вышаў загад, каб усе жаўнеры Вільні пакінулі горад і накіраваліся ў іншыя мясцовасці. Я паехаў у Гродна і там у паразуменні з начальнікам асветы Шапірам пачаў арганізоўваць бела-

(Працяг на стар. 6)

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ





**Фрагмент выстаўкі вучнёўскіх прац у школе ў Дубяжыне на канец навучальнага года.**

Фота Я. Чэрнякевіч.




**(Якуцкая казка)**

*У перакладзе С. Міхальчука.*

Кажуць-расказваюць пра храбрага паляўнічага Юджыяна, кажуць-расказваюць пра яго маленькага брата Хаджугура — як яны жылі ды што з імі здарылася.

Жылі два браты без маці, без бацькі. Старэйшы для малодшата і за бацьку, і за маці быў. Так і жылі: сонца толькі бачком над зямлёю паказваецца, а старэйшы брат Юджыян ўжо ў густым лесе на паляванні, малодшы яшчэ спіць. Сонца вышэй падымаецца, малодшы брат Хаджугур устае, двор падмятае, коням і каровам корм дае. Пад вечар у ачагу распальвае, тут і Юджыян з палявання вяртаецца.

Шмат здабычы прыносіў дадому Юджыян. Яшчэ да першага снегу пушных звяроў з нор выганяў. На самым золку за трохгадовым ласём гнаўся. Пад вечар з мядзведзем накрыжкі дужаўся. А ваўкоў — тых, як толькі згледзіць, без промаху біў. У юрце ў братоў мяккіх шкур уволю, сала, мяса ўдосталь.

Аднойчы, як заўсёды, пайшоў Юджыян на паляванне, а малалетка Хаджугур, як заўсёды, дома застаўся. Выйшаў з юрты на падворак падмятаць-прыбіраць, над галавою крык пачуў. Ен угору паглядзеў, бачыць — у небе сем стэрхаў, сем белых жураўлёў-журавак кружацца. З-пад сонца белыя крылы іх ружовымі здаюцца, у цяні блакітным адсвечваюць. Хаджугур жураўкам рукою памахаў, яны трохі ніжэй спусціліся.

— Хто ў вас дома-дома? — пытаюцца.

— Адзін-адзін дома я! — адказвае Хаджугур. — Старэйшы брат на паляванне пайшоў.

Жураўлі-жураўкі адна ў адной пытаюцца:

— Пагуляем-пабавімся, сястрыцы, з малалеткам? Яму весела будзе, і нам не сумна.

Апусціліся пасярод шырокага двара. На доўгіх нагах абышлі падворак, потым шкуркі з белым пер'ем скінулі — дзяўчатамі прыгожымі парабіліся, вясёлыя гульні распачалі. У хованкі гулялі, навыперадкі з Хаджугурам бегалі, скакалі-танцавалі. Пабылі ў юрце, там усё дагары нагамі перавярнулі. Цэлы дзень гулялі-смяяліся, а сонца на захад схілілася — заспяшаліся. Шкуркі з белым пер'ем пахапалі, на сябе надзелі, зноў у стэрхаў-жураўлёў перакінуліся. Замахалі крыламі, паляцелі.

Тут і старэйшы брат, паляўнічы Юджыян, са здабычай вярнуўся.

Глядзіць — двор не падмецены, някормленыя каровы ў хляве рыкаюць, няпоеныя коні ржуць у стайні. Дровы не пасечаны, вада не прынесена, у юрце агонь не запалены.

— Ты чаму сваю работу не зрабіў? — пытаецца Юджыян у Хаджугура.

— Даруй-прабач, старэйшы брат! — адказвае Хаджугур. — Дзень я праспаў, пра вечар падумаў — раніца.

Засмяяўся старэйшы брат, не раззлаваўся. Разам усю работу як бачыш зрабілі. Кароў накармілі, коней напаілі, сабе есці прыгатавалі. Паелі, спаць леглі.

Назаўтра раніцай, толькі брат з двара, Хаджугур падхапіўся. На мяккіх шкурках не песціўся, на пушыстых не разлежваўся, выбег з юрты, угору паглядзеў. А вышэй падворка, ніжэй неба жураўлі ўжо кружацца.

— Пайшоў, пайшоў мой брат! — крычыць ім Хаджугур-малалетка. — Апускайцеся хутчэй!

Жураўкі апусціліся, дзяўчатамі парабіліся. Тыя ж гульні, што і ўчора, распачалі. Зноў Хаджугур не прыкмеціў, як дзень мінуў. На развітанне журайкі сказалі:

— Брату пра нас не кажы, не расказвай. Хоць слова скажаш — болей не прыляцім!

Паляцелі жураўкі, нібы камячкі снегу ў небе раставалі. Хаджугур за работу схапіўся. Ды дзе ж ты паспееш? Брат ужо вяртаецца, дадому лася за ноздры вядзе.

Паглядзеў Юджыян наўкол — нічога не прыбрана, не дагледжана. Раззлаваўся.

— Сёння зноў гаварыць будзеш: праспаў?!

— Буду! — Хаджугур адказвае.

Не са злосці, а для навукі адкалашмаціў трохі Юджыян Хаджугура. Сам падумаў: нешта тут не так, відаць, ёсць прычына. Раней не ленаваўся брат, што трэба было рабіць, рабіў з ахвотай.

Раніцай Юджыян устаў, як заўсёды, на досвітку. Лук са стрэламі прыхапіў, з юрты выйшаў, а ў лес не пайшоў. Стукнуўся вобзем і перакінуўся ў блыху. Блыха скокнула і схавалася ў шчыліне агароджы. Прытаілася, чакае.

Э-э, не спіць, не песціцца ў

(Працяг на стар. 10)

## Для самых маленькіх

Васіль Хомчанка

### ХЛЕБ

*— Дзед, — пытае ўнук, — куды ехаць збіраешся?*

*— Поле араць.*

*— А навошта яго араць?*

*— Пасею на ім жыта. Калі вырасце, сажну, змалачу, хлеба напяку. А ад хлеба сіла будзе.*

*— А для чаго табе, старому, сіла?*

*— Каб за плугам хадзіць, поле араць, жыта сеяць, малаціць, хлеба свайго мець багата.*

*— Няўжо ты, дзед, адзін увесь хлеб з'ясі?*

*— Ты, унучак, паможаш.*

*— Ну, тады і мяне бяры з сабой у поле. Памагаць табе буду.*

Пятрусь Макаль

### ХАЧУ ГУЛЯЦЬ

Наш Рыгорка анікому
Не дае спакою дома.
Сто разоў, не менш, бадай,
Ён за дзень паўторыць:
— Дай!
Ручкай ён ківае хвацка,
Што ні рэч —
Малому цацка.
— Дай цукерку! Дай паперку!
— Дай аловак і пяро!
— Дай бліскучую талерку!
— Дай грымучае вядро!

Глянуў хлопчык на аконца,
На якім прылегла сонца,
І гукнуў шчасліва:
— Бач!
Вось які прыгожы мяч!
І бяжыць малыш да таты:
— Дай хутчэй! Гуляць хачу!
І ад сонейка ў дзіцяткі
Скачуць зайчыкі ўваччу.

Тут падумаўшы з хвіліну,
Вось што кажа бацька сыну:
Калі б мы з табою дома
Сонейка трымаць маглі,
Дык ураз тады, вядома,
Стала б цёмна на зямлі.
Хай яно па небе ходзіць,
Каб усім было відно,
Хай на досвітку знаходзіць
Сцежку ў кожнае акно!

### АКУЛЯРЫ

(З Юльяна Тувіма)

Ох, і гора ў цёткі Клары:
Зніклі недзе акуляры.
Заглядае — вось турботы —
У кафтан, у збан і ў боты.
Пад канапу, у кадушку,
У шуфляду, пад падушку.
Роспач — хмараю на твары.
Ці не збеглі акуляры?
Плацце ў шафеператрэсла,
Тыцнула мятлой пад крэсла.
Запаліла потым свечку,
Са святлом палезла ў печку.
Хоча ўжо ламаць падлогу,
Біць на ўвесь раён трывогу.
Падалася да куфэрка,
Раптам глянула ў люстэрка.
Тут усмешка ў цёткі Клары
Засвяцілася на твары.
Што такое адбылося?
Вось яны — на ўласным носе.



Мажэна Паўлючук і Эля Васілюк з Храбалоў — актыўныя ўдзельніцы розных школьных конкурсаў.

Фота Я. Чэрнякевіч.

(Працяг са стар. 9)

## ЖУРАЎЛІНАЕ ПЯРО

пасцелі Хаджугур. Выбег з з юрты, пасярод двара каля канавязі стаў, галаву ўгору задзёр. І блыха са шчыліны высунулася, уверх паглядзела. Кружаць-кружацца там жураўкі, жураўліным крыкам чалавечыя словы вымаўляюць:

— Гэй, малалетка Хаджугур, ці пайшоў твой брат?

— Пайшоў, пайшоў! — Хаджугур крычыць, радасна рукамі махае. — Апускайцеся, апускайцеся хутчэй!

Жураўкі не апускаюцца.

— Чаму гэта ваш падворак ценем зацяніўся? Чаму дом ваш, агонь ваш цёмным туманам затуманіўся?

— Здалося вам гэта, — адказвае Хаджугур. — Сонца яшчэ невысока паднялося, вам яно відаць, а сюды пакуль што не прыйшло.

— Дык няма дома брата? — зноў пытаюцца жураўкі,

— Няма, няма! Ён ужо ў лес зайшоў, звера высачыў, за ім гоніцца.

Працяг будзе.

## малюнкі школьнікаў

Дарагая „Зорка"! Пішуць Табе вучні другога класа Пачатковай школы ў Храбалах. Мы вельмі любім урокі беларускай мовы. На ўроках мы чытаем „Зорку", асабліва вершы і казкі. Пасылаем табе ілюстрацыі да казак, якія мы ў мінулым навучальным годзе пазналі.

**Ад рэдакцыі:** Дзякую за мноства малюнкаў. Будзем друкаваць іх па чарзе. А сёння два з іх.



Ілюстрацыя да казкі „Хлеб". Мал. Марты Аляксеюк.



Ілюстрацыя да казкі „Ліса і журавель". Мал. Міраслава Нікалаюка.

## Вясёлы куточак

* ❊ *

Настаўнік:

— Праскланяй мне слова „кошка"!

Вучань задумаўся, а потым кажа:

— Кіс-кіс-кіс!

* ❊ *

Размова:

— Гэта ты?

— Не, гэта я!

— А, дык уваходзь. А я думала, што я гэта ты.

## Вершы Віктара Шведа

### ДВАРОВЫ САБАКА

Сабака я дваровы,
Нявольны, ланцуговы.
Не маю нічагуткі,
Апроч маленькай будкі.
Вось тут мае начлегі,
Я не магу пабегаць
Свабодна, без аброжкі,
Каб глянуць на свет трошкі.
Дабра пільную штодзень,
Каб не дабраўся злодзей,
Каб гаспадар у хаце
Спакойна мог паспаці.
Не хочуць мне прынесці
Яды, каб мог паесці.
Ад голаду аж млосна,
Відаць, каб быў больш злосны.

### ЦЭЛЫ ТЫДЗЕНЬ МУЧЫЎ ЗЛЫДЗЕНЬ

Эля зноўку ў панядзелак
Пайсці ў школу не хацела.
Калі надыйшоў аўторак —
Прытварацца стала хворай.
Наступіла серада —
Галава баліць — бяда!
Маме скардзіцца ў чацвер:
— Змучаная я — павер.
Азвалася ў пятніцу:
— Я дык не выдатніца.
Пайсці ў школу у суботу
Не было зусім ахвоты.
У святочную нядзелю
Адпачыць хацела Эля.
Цэлы тыдзень, цэлы тыдзень
Вымучыў ляноты злыдзень.

### ДРАЧ НЕ ПЛАЧ

Да хат з лугоў
Данёсся плач.
Заплакаў зноў
Чамусьці драч.
Не плач ля хат
Журботна драч.
Жадаем шмат
Табе удач.

### ЭМІЛЬКА ПРАГЛЫНУЛА ШПІЛЬКУ

Плача з роспаччу Эмілька,
Поўна слёзак у вачах.
Праглынула сёння шпільку,
Ахапіў дзяўчынку жах.

— Ты не плач, — сказала
Рая, —
Пашкадуй, сястрычка, слёз.
Шпілька ёсць яшчэ другая,
Татка з горада прывёз.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 8, кв. 68. Таня Габрусева. 7 клас.

* ❊ *

БССР, 220064, г. Мінск-64, вул. Ландэра, 52, кв. 35. Алёна Дзятковіч. 6 клас.

* ❊ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 8, кв. 110. Аксана Васкабоева. 6 клас.

* ❊ *

БССР, 220064, г. Мінск-64, вул. Ландэра, 80, кв. 57. Оля Зіневіч. 7 клас.

* ❊ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 6, кв. 28. Павел Філіповіч. 3 клас.

* ❊ *

СССР, 344077, г. Ростов-на-Дону, ул. Врубовая, 4/1, кв. 41. Соловьёвой Людмиле. (16 год) и кв. 52, Бобылевой Светлане (18 год).

* ❊ *

СССР, 346506, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Ленинского Комсомола, 63а, кв. 101. Шматковой Оксане. (6 клас).



## АДГАДАНКА

Спалучы лікі ад 1 да 44. Што выйшла?

## Пішуць школьнікі

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ДАРАГАЯ „НІВА"!

Звяртаюся да Цябе з вялікай просьбай — дапамажы мне пазнаёміцца з новымі сябрамі. Калі ласка, надрукуй мой адрас у сваёй газеце. Я вучуся ў сёмым класе. Вучуся добра. Люблю прыроду, асабліва жывёл. Больш аб сабе напішу сваім новым сябрам.

Алена Зенчык,

225140 Брэсцкая вобл., г. Пружаны, вул. Вішнявецкая, 8.

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, „ЗОРКА"!

Мы з мамай з задавальненнем чытаем „Ніву" і „Зорку", калі толькі ёсць магчымасць. Мама кажа, што ў вас добрая беларуская мова, без уплыву іншых моў.

Шаноўная „Зорка"! Мне вельмі хочацца перапісвацца на беларускай мове з кім-небудзь з дзяцей, якія жывуць у Польшчы. Можа ў вашай газеце знойдзецца месца для майго адраса? Загадзя дзякую вам!

Вольга Дзмітрыева. 12 гадоў. 220067, Мінск, вул. Р...нава, д. 24, кв. 385.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok. ul Wesołowskiego 1. „Зорка"

## РАСТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК „НІЎКІ“

**Бандарня** — група хуліганаў.
**Банка** — касірша.
**Банкарт** — банкавы рахунак.
**Банкнот** — спеўнік.
**Баравіна** — памяшканне для піцця віна.
**Беродаўка** — ніжняя губа.
**Бастон** — музычны інструмент, які выдае нізкія гукі.
**Баталіст** — пастух або фурман.
**Баханка** — стрэльба.
**Бачок** — крывы позірк на кагосьці.
**Баяніст** — трус, палахлівец.
**Беганіна** — Ніна-спартсменка.
**Бежанец** — лёгкаатлет, які займаецца бегамі.
**Бежанка** — сцежка для бегуноў.
**Бежанства** — лёгкаатлетычная канкурэнцыя.
**Бельгія** — зіма.
**Бойка** — палахлівая жанчына.
**Бравура** — бурлівыя воплескі.
**Братка** — сястра.
**Брахун** — сабака.

„ядань“

### МІНІ-КРЫЖАВАНКА

У радкі 1, 2, 3, 4 упісаць словы-паліндромы з наступнымі значэннямі: *данскі або кубанскі; загрывак; французская пані; мужское імя.* Месца ўпісання слоў-паліндромаў трэба адгадаць. Значэнні астатніх слоў: 5) пасудзіна або частка шкілета, 6) лінія роўна размешчаных аднародных прадметаў.

**Фёдар Рымашэўскі, Мінск**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будзе разыграна кніжная ўзнагарода.




## НІЎКА





*Малюнак Анджэя Млечкі („Сатырыкон“, выд. Б).*

## АФАРЫЗМЫ

Калі маеш рацыю на суткі раней за іншых людзей, тады будуць суткі лічыць цябе вар'ятам.

* * *

З-за фамільярнасці ўзнікае самая тонкая дружба і самая моцная нянавісць.

* * *

Роўны не абазначае падобны. Верыць, што бывае інакш — гэта фатальная памылка.

* * *

Трэба выразна адрозніваць арыфметычную і палітычную большасць у дзяржаве.

* * *

— Вы надта многа гаворыце да гэтых нудных людзей.
— Гавару з боязі, каб не быць прымушаным слухаць іх.

* * *

Маладыя мужчыны ў адносінах да жанчын з'яўляюцца засаромленымі багацеямі, старыя — нахабнымі жабракамі.

**Антуан дэ Рывароль**

## ГУМАР З ГАБРАВА

Сын Габравяніна, студэнт медычнага інстытута, вырашыў спецыялізавацца ў кардыялогіі.

— Дурань! — закрычаў бацька. — Стань дантыстам. У людзей жа толькі адно сэрца і аж трыццаць два зубы!

* * *

Габравянін заказвае сабе боты ў шаўца:

— Маэстра, зрабіце іх з таннага матэрыялу, каб не надта дорага яны каштавалі. Але пашыйце іх моцна, каб хапіла на доўгія гады.

* * *

— Дайце мне дзесяць яек, — просіць габравянін гандлярку на базары. — Але абавязкова ад чорнай курыцы!

— А як жа я пазнаю, якія яйкі ад чорнай, а якія ад пярэстай? Калі ты такі разумнік, дык сам сабе выберы!

— Згода! — сказаў габравянін і выбраў з кошыка дзесяць найбольшых яек.

* * *

Калісьці запыталі аднаго лекара з Габрава:

— Доктар, чаму вы пытаецеся ў сваіх пацыентаў, як яны харчуюцца? Ці такая інфармацыя патрэбна, каб паставіць трапны дыягназ?

— Для дыягназу — не заўсёды. Але заўсёды для акрэслення сумы ганарару...

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ОЙ, САД-ВІНАГРАД
(народная)

Ой сад-вінаград,
Зялёная вішня,
Стаіць хлопец пад вакном,
Каб дзяўчына выйшла.*

Прыпеў: Ой, рув, рува я,
Рува, рува, рува я,
Рува, рува, рува я,
Люба дзеўчына мая!

— Не стой пад вакном,
Не тупай нагою,
Бо не выйду і не стану
Гаварыць з табою.

Прыпеў.

Не стой пад вакном,
Не махай рукавом,
Бо не выйду гаварыць
Я з такім чудаком.

Прыпеў.

Не стой пад вакном,
Не тапчы травіцы,
Бо не любяць цябе дзеўкі,
Ідзі да ўдавіцы.

Прыпеў: Ой, рув, рува я,
Рува, рува, рува я,
Рува, рува, рува я,
Люба дзеўчына мая!

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.







— *Насільшчык!*

### ШТО ЗА ДЗІВА?

Падаліся ў горад хлопцы...
Так, было яно, было.
Але я застаўся ў вёсцы,
Люба мне маё сяло.

Ды мяне не забывалі
Дарагія землякі.
На рыбалку прыязджалі,
Па вяндліну, па грыбкі.

Усяго ў жыцці бывала...
Хоць далёкі, праўда, шлях,
Брат з Архангельска па сала
Прыязджаў на „Жыгулях“.

Прыйдзе лета — з цэнтраў гулкіх
Да майго імкнуць двара
І пляменнікі, і ўнукі,
І стрыечная сястра.

Кажуць: — Слаўнае мястэчка,
Тут раскоша і спакой.
І крыніцы ёсць, і рэчка,
І цалебны сырадой.

Мой прасторны дом сасновы
Не ўмяшчаў увесь народ.
Думаў ладзіць прыбудовы
І пашырыць агарод.

Ды не стаў займацца домам,
А для жарту напісаў
Многім родзічам, знаёмым
Па вядомых адрасах:

„Збыў свіней, прадаў карову,
І цяпер жыву, як след,
У суседнюю сталоўку
Сам хаджу я на абед“.

І дзіўлюся: ані гуку.
Не чуваць гады ўжо тры
Ні пляменнікаў, ні ўнукаў,
Ні стрыечнае сястры.

**Сямён Пацёмкін**




Часам тыя, каго ставяць у прыклад, больш ні на што і не падыходзяць.